**№ 95 (4142)**

6 снежня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**«Народная Воля»**
в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# У Мінску з трохдзённым візітам знаходзіцца старшыня Сената Польшчы Станіслаў Карчэўскі

### У складзе польскай дэлегацыі – сенатары Яніна Сагатоўска, Станіслаў Гогач, Анджэй Місёлек, Лешэк Пяхота і дэпутат Адам Андрушкевіч – сустаршыня польска-беларускай парламенцкай групы.



Фота Sputnik.by.

## Дзяліць нам няма чаго

Высокага госця запрасіў у нашу краіну ягоны калега – старшыня Савета Рэспублікі **Міхаіл Мясніковіч**. Ён сустракаў Карчэўскага ў Нацыянальным аэрапорце. А першая гутарка спікера польскага Сената была ўчора з **Аляксандрам Лукашэнкам**.

І літаральна на першых яе хвілінах было сказана пра намер самага актыўнага дыялогу Беларусі з Польшчай.

*«Вельмі спадзяюся і амаль упэўнены, што ваш візіт у Беларусь будзе пачаткам самага актыўнага дыялогу паміж нашымі краінамі,* – вітаў Карчэўскага Лукашэнка. – *Пры ўсіх інтарэсах Польшчы і Беларусі, пагадзіцеся, дзяліць нам няма чаго. Мы заўсёды жылі ў дружбе і згодзе. У нас вельмі блізкая, а часам агульная гісторыя. І паколькі часам узнікаюць пытанні з боку Польшчы, можа быць, у нас у часткі насельніцтва ў дачыненні да нашай агульнай гісторыі, я вас хачу запэўніць, што мы заўсёды будзем адкрыты. Мы гатовы адказваць заўсёды на пытанні і запыты польскага боку».*

**ДАЛІКАТНЫЯ ТЭМЫ**

## Пасля Лукашэнкі – Някляеў, Статкевіч і іншыя

Графік візіту польскага госця ў Беларусь даволі насычаны – сустрэчы з Міхаілам Мясніковічам, старшынёй Палаты прадстаўнікоў **Уладзімірам Андрэйчанкам**, студэнтамі і выкладчыкамі філфака БДУ, наведванне РНПЦ дзіцячай анкалогіі і г.д.

Візіт афіцыйны, але сёння Станіслаў Карчэўскі наведае Курапаты, да якіх ва ўлад своеасаблівае стаўленне, сустрэнецца з апазіцыйнымі палітыкамі, сярод якіх – Мікола Статкевіч, Уладзімір Някляеў, Аляксандр Мілінкевіч, Станіслаў Шушкевіч, Юрась Губарэвіч, Павел Севярынец і іншыя. Апошні, дарэчы, дадзены візіт назваў *«здрадай ідэалам дэмакратыі»*.

Праўда, першым пра тое, што бакі *«не павінны абмінаць далікатныя тэмы»*, загаварыў Міхаіл Мясніковіч. І адну з іх акрэсліў так: карта паляка *«не павінна наносіць шкоду інтарэсам маёй краіны». «Гэтае пытанне патрабуе сур'ёзнага вывучэння на ўзроўні экспертаў,* – заявіў Мясніковіч. – *Такая палітыка стымулюе эміграцыю моладзі, высокакваліфікаваных спецыялістаў з Беларусі ў Польшчу».*

Сёння, паводле неафіцыйных дадзеных, уладальнікамі карты з'яўляюцца каля 10% насельніцтва Беларусі. Карта паляка дае яе ўладальнікам шэраг правоў – лягчэй уладкавацца на працу ў Польшчы, атрымаць від на жыхарства і г.д. Прычым дзяржчыноўнікам і дэпутатам усіх узроўняў забаронена атрымліваць гэты дакумент.

Што яшчэ да "далікатных тэм", то польскі бок у сваю чаргу выказваў спадзяванне, што падчас візіту атрымаецца абмеркаваць магчымасць завяршэння спрэчак вакол Саюза палякаў у Беларусі.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

**ШТРЫХ**



Фота http://zw.lt.

## Трэці партнёр

Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы са Станіславам Карчэўскім адзначыў, што Беларусі і Польшчы *"неабходна ўзнімаць палітычныя адносіны на ўзровень эканамічных"*.

Польшча сёння з'яўляецца трэцім партнёрам Беларусі па тавараабароце пасля Расіі і Украіны. І трэба адзначыць, што ў студзені–верасні тавараабарот паміж краінамі вырас яшчэ на 9,8% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года – да 1,52 мільярда долараў.

У спісе краін-экспарцёраў Польшча займае шостую пазіцыю, а імпарту ў нашу краіну больш, чым з Польшчы, пастаўляецца толькі з Расіі і Кітая. З 2000 года беларускі экспарт у Польшчу вырас у 2,8 раза, імпарт з Польшчы – у 4,8 раза.

**БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ**

2016 год можна назваць годам прарыву ў беларуска-польскіх адносінах, якія доўгі час – пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года і разгону Плошчы – былі даволі напружаныя.

Цяперашні візіт спікера польскага Сената Станіслава Карчэўскага – адно са звёнаў у ланцугу сустрэч і мерапрыемстваў на самым высокім узроўні, якія назіраюцца апошнім часам. У сакавіку Беларусь наведаў міністр замежных спраў Польшчы **Вітальд Вашчыкоўскі.** У кастрычніку ў сваю чаргу адбыўся рабочы візіт у Варшаву міністра замежных спраў Беларусі **Уладзіміра Макея.** Таксама ў кастрычніку прайшло яшчэ адно знакавае мерапрыемства – беларуска-польскі эканамічны форум "Добрасуседства-2016", адкрываць які прыехаў намеснік прэм'ер-міністра Польшчы, міністр развіцця і фінансаў **Матэвуш Маравецкі.** Прычым спачатку Маравецкі сустрэўся з Аляксандрам Лукашэнкам, а потым паўдзельнічаў у працы форуму. Падчас адкрыцця форуму Міхаіл Мясніковіч уручыў букет кветак амбасадару Польшчы **Конраду Паўліку** – павіншаваў дыпламата з 40-годдзем.

І вось візіт спікера Станіслава Карчэўскага.

– *Чым патлумачыць гэтае збліжэнне паміж Варшавай і Мінскам? Я думаю, галоўная прычына ў палітыцы Масквы,* – выказвае сваё меркаванне эксперт па пытаннях знешняй палітыкі і бяспекі **Андрэй Фёдараў**. – *Пасля акупацыі Крыма, агрэсіі на ўсходзе Украіны Захад, і Польшча ў прыватнасці, пачалі хвалявацца наконт сваёй бяспекі і спрабуюць усялякімі мерамі супрацьстаяць Расіі. Адна з такіх мер – спроба ўтрымаць Беларусь ад вельмі цеснага саюза з Масквой.*

*У Мінску, зразумела, гучаць заявы, што дадзеныя кантакты – гэта найгоршае праяўленне real politic. Але, на мой погляд, даваць такія адназначныя ацэнкі не зусім правільна. Ёсць і ценявыя бакі гэтых кантактаў, ёсць і пазітыўныя. Вядома, хвалюе тое, што сустрэчы адбываюцца на фоне таго, што сітуацыя ў Беларусі і з правамі чалавека, і са свабодамі не вельмі змянілася. Думаю, што Захад таксама гэта выразна разумее. Але, з іншага боку, Еўропа лічыць няправільным падштурхоўваць Мінск у абдымкі Крамля і спрабуе выбіраць паміж дрэнным і вельмі дрэнным.*

*На мой погляд, на дадзеным этапе нельга выключаць і верагоднасць хуткай сустрэчы прэзідэнтаў Польшчы і Беларусі, пра што два гады таму нават і гаворкі не магло быць. Я не ўпэўнены наконт двухбаковых візітаў, але сустрэча ў рамках саміту, напрыклад, Усходняга партнёрства ў 2017-м у Брусэлі – гэта цалкам рэальна.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

**ПЕРШЫЯ ВЫНІКІ**

## Прагаласавалі і падпісалі...

Учора члены Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі ўхвалілі праект закона аб ратыфікацыі пагаднення паміж урадамі Беларусі і Польшчы аб супрацоўніцтве ў галіне адукацыі. Падчас адмеркавання законапраекта Станіслаў Карчэўскі сядзеў у прэзідыуме.

У дакуменце пазначаны планы па развіцці адносін паміж ВНУ, абмене студэнтамі і ўзаемных стажыроўках выкладчыкаў, аб развіцці вывучэння беларускай і польскай моў у краінах-суседзях. Акрамя таго, прадугледжваецца, што студэнты нацыянальных меншасцяў могуць быць прыняты ў ВНУ іншай краіны без уступных экзаменаў – толькі на аснове ацэнкі ведаў імі мовы, на якой будзе весціся навучанне.

Таксама ўчора Нацыянальная акадэмія навук Беларусі і Польская акадэмія навук падпісалі пагадненне аб навуковым супрацоўніцтве.

**У НУМАР!**

## Аляксандр Косінец вызвалены ад пасады кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта

*Паводле афіцыйнай інфармацыі – "у сувязі з пераходам на іншую работу".*



BELTA.BY

Як паведамляе прэс-служба кіраўніка краіны, адпаведны ўказ **Аляксандр Лукашэнка** падпісаў 5 снежня.

Таксама вызвалены ад пасады ў сувязі з пераходам на іншую работу і першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта **Канстанцін Мартынецкі**.

Выконваючым абавязкі кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта прызначаны **Валерый Міцкевіч**.

**ВЕРСІЯ**

## Вырашаць праблему з Масквой будзе Сідорскі?



BELTA.BY

Адна з магчымых прычын адстаўкі Косінца – яго неканкурэнтаздольнасць у святле новых задач, якія могуць быць пастаўлены перад Адміністрацыяй прэзідэнта. Такая версія выказана ў каментарыях **naviny.by**: "Хутчэй за ўсё, прэзідэнцкаму глаўку, які з'яўляецца асноўным генератарам эканамічнай палітыкі, сёння патрэбна больш аўтарытэтная фігура".

Сайт сцвярджае: "Косінец усё ж паводле адукацыі ўрач, хаця і мае вялікі кіраўніцкі досвед, у тым ліку і ва ўрадзе. Сёння ж патрэбны чалавек, які ведае беларускую эканоміку не па чутках. Магчыма, такім чалавекам стане **Сяргей Сідорскі** – былы прэм'ер-міністр, які ўзначальваў урад сем гадоў, у тым ліку ў перыяд пачатку эканамічнага крызісу і пацяплення адносін з Захадам напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2010 года".

**БЛІЦ**

*У Беларусі зноў загаварылі пра тое, што трэба ўнесці змяненні ў Канстытуцыю. Пры гэтым на розныя лады абмяркоўваецца ідэя падаўжэння паўнамоцтваў прэзідэнта краіны і дэпутатаў.*

*Нагадаем, першым пра магчымы перагляд Канстытуцыі выказаўся Аляксандр Лукашэнка, звяртаючыся да дэпутатаў парламента: "З'явіліся новыя праблемы, выклікі. Ды і час, напэўна, патрабуе чагосьці новага. І пачынаць трэба з галоўнага, калі мы адважымся на гэта. Нам трэба стварыць групу мудрацоў, юрыстаў, якія прааналізуюць Асноўны закон. І, калі трэба будзе, мы на гэта пойдзем".*

*Апошні раз Канстытуцыя ў Беларусі мянялася ў 2004 годзе. Тады з яе па выніках рэферэндуму прыбралі абмежаванне ў два тэрміны для прэзідэнта. Цяпер некаму гэтага замала.*

*"Народная Воля" звярнулася да шэрагу асоб з наступным пытаннем:*

## А вы згодны з тым, каб павялічыць тэрмін дэпутацкіх паўнамоцтваў да пяці гадоў, а прэзідэнцкіх – да сямі?

**Вольга АБРАМАВА, экс-дэпутат Палаты прадстаўнікоў:**

– Я не веру, што гэта рэальна. Мне цяжка паверыць у тое, што ва ўлады настолькі адмовілі тармазы, што яна рыхтуе сабе палітычнае самагубства. Мне здаецца, не варта браць да галавы любую дурноту, якую хтосьці агучвае. У Беларусі не тая сітуацыя, каб займацца паўторам эксперыментаў, якія праводзіліся ў значна больш спрыяльныя часы і пры іншых адносінах людзей да ўлады. Дрэнна можа скончыцца.

**Антон АСТАПОВІЧ, старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры:**

– Я ўвогуле працягнуў бы тэрмін дзеяння парламента да дзесяці год, а прэзідэнцкі зрабіў пажыццёвым. Жартую, канешне! А калі сур'ёзна, то я да такіх ідэй стаўлюся негатыўна. І шчыра не разумею: няўжо некаторыя людзі яшчэ не нажэрліся ўладай і гатовы перайсці ўсе межы дазволенага і разумнага?

Але саме цікавае будзе, што калі такі рэферэндум адбудзецца, то 95 працэнтаў беларусаў за гэта нібыта прагаласуюць. Відаць, менавіта таму Лідзію Ярмошыну і не адправілі на пенсію, а пакінулі на баявым пасту. Бо без яе такія лічбы зрабіць будзе вельмі складана.

**Марына ПАЎЛОВІЧ, эканаміст:**

– Я супраць! Жыццё такое кароткае, 10 гадоў – вялікі тэрмін. За гэты час можна паспець рэалізаваць усе свае ідэі. І для дэпутатаў таксама заседжвацца пяць гадоў на адным месцы – зашмат. Яны і самі губляюць прафесійную кваліфікацыю, і на праблемы людзей перастаюць адгукацца.

**Яраслаў БЕРНІКОВІЧ, грамадскі актывіст:**

– Я па-філасофску да гэтага стаўлюся. У нас прэзідэнт не мяняецца ўжо больш за 20 гадоў. Таму якая розніца, колькі ён будзе кіраваць паводле закона? Калі выбары будуць праходзіць па такой жа сістэме, як цяпер, то, можа, для дзяржавы гэта будзе і добра. Менш выдаткаў на выбары, якіх, па сутнасці, няма. Танней для падаткаплацельшчыкаў.

А калі зменіцца выбарчае заканадаўства і выбары будуць сумленныя і справядлівыя, то, вядома, я супраць падаўжэння тэрмінаў паўнамоцтваў парламента і прэзідэнта. На мой погляд, два тэрміны па чатыры гады для дэпутата – цалкам дастаткова. Для прэзідэнта 10 гадоў – і хопіць! Інакш тыя, хто ў 1994 годзе выбіраў (ці не выбіраў) Лукашэнку, пры іншым прэзідэнце могуць і не пажыць...

**Аляксандр БУХВОСТАЎ, старшыня Свабоднага прафсаюза металістаў:**

– На мой погляд, няма ніякай неабходнасці ў павелічэнні прэзідэнцкага тэрміну. Гэтак жа сама скажу і пра парламент – ён наогул ніякай ролі ў жыцці беларускага грамадства не іграе, ад меркавання дэпутатаў у нас нічога не залежыць. І ўвогуле, пакуль не будзе дэмакратычных выбараў, гэтыя маніпуляцыі з тэрмінамі нічога не даюць. Аляксандру Лукашэнку, відаць, хочацца ў 2020 годзе зноў пайсці на выбары, але ён разумее, што да гэтага часу сітуацыя ў эканоміцы можа значна пагоршыцца. Вось і шукае выхады... Так што я думаю, што перапісванне Канстытуцыі – проста спроба чарговай палітычнай афёры.

**Юрый КІВАК, ваенны пенсіянер:**

– Я ад палітыкі далёкі, але, мяркую, перапісаць Канстытуцыю хочуць у інтарэсах канкрэтных людзей. І калі такі рэферэндум адбудзецца, у прэзідэнта зноў пачнецца адлік новага тэрміну...

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ, паэт, лаўрэат Дзяржпрэміі Беларусі:**

– Я згаджаюся з тымі, хто гаворыць, што ў сённяшняй Беларусі ўвогуле трэба адмяняць усе выбары. Не трэба траціць народныя грошы. Захацелі дыктатара, выгадавалі яго – цяпер жывіце пры ім да той пары, пакуль ён не памрэ ці пакуль яго не скінуць пры дапамозе дварцовага перавароту. Гэта, канешне, жарт і сарказм. Але я настолькі ўжо адурэў ад глупства, якое творыцца ў нашай краіне, што проста не ведаю, які тут можа быць яшчэ каментарый...

Калі сур'ёзна, дык улада проста блытае сябе з законам. І калі пычынаецца кіраванне пры дапамозе дэкрэтаў, указаў, інструкцый, якіх у нас мільёны, гэта ўсё выліваецца ў тое, што знікае ўсялякі давер і павага да такой улады. Дый адкуль будзе павага да ўлады, калі ўсе ведаюць, што яна выбіраецца незаконна?..

**Марына КОКТЫШ.**

**ПАЗІЦЫЯ**



Васіль ЗУЁНАК, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы:

## «Я ўжо выпісаў «Народную Волю» на першае паўгоддзе 2017 года»

– Я выпісваю "Народную Волю", таму што на яе старонках заўсёды можна знайсці праўдзівую і аператыўную інфармацыю. Пачытаеш нумар – і маеш поўную карціну таго, што робіцца ў грамадстве. Гэта самае галоўнае.

Падабаецца, што "Народная Воля" выказвае розныя меркаванні, дае нагоду для роздуму.

Вельмі хацеў бы, каб у бліжэйшы час "Народная Воля" перайшла на штодзённы выхад. І каб не згубіла сваёй вастрыні!

ИНТИМНАЯ ТЕМА

# Болезнь, которую другим не покажешь

*«Воспоминанья кружатся, как комариный рой. А мне смешно до ужасов. Мой ужас – геморрой!» – с улыбкой цитирует он слова Владимира Высоцкого. И тут же становится очень серьезным. «Для многих геморрой – это действительно ужас и серьезный повод сходить к врачу», – отмечает врач-проктолог медицинского центра «ЛОДЭ», кандидат медицинских наук* ***Дмитрий Гребенников.***

**– По некоторым данным, от геморроя страдает до 70 процентов населения Земли. У каждого человека есть геморроидальные сплетения. Значит, почти все рискуют обнаружить у себя это заболевание?**

– Геморроидальные сплетения закладываются, когда человек еще находится в утробе матери. Но далеко не всем мы ставим диагноз «геморрой». Развитию заболевания способствуют различные специфические факторы: это образ жизни (неслучайно геморрой называют болезнью программистов и водителей), физические нагрузки, возраст, нервный стресс, беременность. Одной из самых распространенных причин увеличения геморроидальных узлов являются запоры.

В наш центр чаще обращаются люди с хроническим заболеванием, однако встречается и острый геморрой – он же тромбоз геморроидальных узлов.

**– На какой стадии развития недуга приходят к вам пациенты?**

– Это заболевание из тех, о которых говорят: *«сам не оценишь, а другим не покажешь»* – стыдно. Люди очень стесняются идти к проктологу, а если уж приходят к специалисту, значит, болезнь уже измучила их: у них запущенное заболевание в третьей или четвертой стадии, когда возможно только оперативное лечение.

**– За рубежом врачи выступают за малоинвазивные методы лечения геморроя. Какие методики предпочитаете вы?**

– Одну из самых эффективных в мире: методику малоинвазивного оперативного лечения геморроя второй-третьей стадии – дезартеризацию геморроидальных узлов с подтяжкой слизистой (лифтингом).

**– Расскажите, пожалуйста, подробнее об этом методе.**

– Полное название операции звучит как трансанальная допплерконтролируемая дезартеризация геморроидальных узлов с мукопексией (или муколифтингом). В европейских странах эта методика называется *HAL-RAR*. Ее суть заключается в том, что под контролем УЗИ определяются и прошиваются все артерии, питающие геморроидальные узлы, а выпадающие узлы обшиваются специальными швами, которые при затягивании возвращают узлы в их физиологическое положение. В результате геморроидальные узлы запустевают и склерозируются. Эффективность такой операции составляет 90–95 процентов. Она не очень болезненна, может проводиться амбулаторно, после операции не остается разрезов в анальном канале и сохраняется высокий косметический эффект.

Кроме того, при значительном геморрое мы проводим радиоволновую или лазерную деструкцию наружных узлов.

**– Какие еще методы лечения геморроя сегодня применяют специалисты?**

– Самый простой метод – консервативный: он заключается в назначении сосудистых лекарственных средств, различных свечей, мазей, диет, а также физиопроцедур. «Золотым стандартом» в лечении геморроя первой-второй стадии считают лигирование внутренних геморроидальных узлов латексными кольцами. Этот метод заключается в том, что основание геморроидального узла пережимается специальными кольцами – и узлы со временем отмирают. Эта методика высокоэффективна, практически безболезненна, доступна, занимает по времени всего 5–10 минут – и пациент может вернуться на работу. Другие методы – фотокоагуляция (или прижигание пучком света) узлов, склерозирование путем введения специального препарата, благодаря чему узлы запустевают, а кровь перестает поступать к ним. Все эти методики применяются в нашем центре.

**– Есть ли плюсы у хирургического лечения геморроя?**

– Конечно, радикальный метод хорош тем, что в последующем мы навсегда избавляем пациента от недуга, поскольку считается, что местное лечение может лишь снять воспаление на время, но не убрать патологически измененную, растянутую кавернозную ткань узлов.

**– Кто в большей степени подвержен развитию заболевания – мужчины или женщины?**

– И те, и другие. Но если у мужчин болезнь, как правило, связана с перечисленными мною факторами, то женщины чаще приходят к врачу после рождения ребенка. По статистике примерно у каждой второй молодой мамы развивается послеродовый геморрой.

**– Какие симптомы свидетельствуют о геморрое?**

– Зуд в анальной области, дискомфорт, появление образований в анусе, тянущие боли в промежности. Однако жалоба номер один у пациентов, страдающих геморроем, – выделение крови из прямой кишки. Но здесь стоит отметить, что этот же симптом может свидетельствовать и о заболеваниях желудочно-кишечного тракта, в том числе и об опухолях. А обыватели, не проконсультировавшись со специалистом, нередко ставят себе диагноз «геморрой» и лечатся не от того.

**– Чем может грозить нелеченый геморрой?**

– Очень неприятным состоянием – тромбозом геморроидальных узлов, когда возникает резкая боль и узлы отекают вплоть до размеров крупного каштана. Нередко тромбированные узлы изъязвляются, что чревато кровотечением. На фоне геморроя могут возникнуть гнойно-воспалительные заболевания околопрямокишечной клетчатки, которые требуют экстренной медицинской помощи. Одним словом, не тяните! Если что-то беспокоит – срочно к врачу!

**Ася КАЛИТИНА.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ



Алесь СІВЫ

# Трэст, які лопнуў

Яшчэ вясной гэтага года, калі чэмпіянат Беларусі па футболе толькі стартаваў, я распавядаў пра неверагоднае "шчасце", якое нечакана звалілася на галаву бабруйскага футбольнага клуба "Белшына": у каманды з'явіўся загадкавы "расійскі інвестар".

Божа, якія вясёлкавыя планы маляваліся! І мільён долараў расіяне быццам бы збіраліся дастаць з уласнай кішэні на патрэбы клуба, і запрошаныя ў каманду чатыры аргенцінскія ігракі павінны былі вывесці бабруйскі футбол ледзь не на сусветны ўзровень, і футбольную акадэмію ў горадзе пабудуюць. Бабруйск стагнаў ад разгорнутай карціны перспектыў!

Адкуль узяліся гэтыя расійскія інвестары, доўгі час ніхто наогул не ведаў, а таямнічасць толькі дадавала інтрыгі. Радасна пацiралі рукі і мясцовыя чыноўнікі: баба з возу – каню лягчэй. І калі расіяне паабяцалі ўзяць часткова на сябе выдаткі па ўтрыманні каманды, то кіраўніцтва горада і вобласці зразумела: вось яно, простае чалавечае шчасце. Расійскіх гасцей чыноўнікі, як Лёня Галубкоў з рэкламы МММ, якую шмат хто яшчэ памятае, пяшчотна называлі партнёрамі і абаранялі да апошняга.

А "партнёры" ўзяліся за справу спрытна: першнаперш разагналі практычна ўвесь папярэдні склад каманды, якая ў мінулым сезоне заняла 4-е месца ў чэмпіянаце Беларусі, і прызначылі галоўным трэнерам малавядомага спецыяліста з Расіі Уладзіміра Яжурава – той паабяцаў ператварыць Бабруйск ледзь не ў сусветную сталіцу футбола. Праўда, ужо пасля першых паражэнняў, калі ружовыя мары сталі шэрымі, Яжураў таямніча знік. Ці то "адпрасіўся з'ездзіць дадому", ці то "пакінуў каманду па сямейных абставінах".

І зноў гарадскія ўлады грудзямі ўсталі на абарону расійскіх "партнёраў", а старшыня Бабруйскага гарвыканкама так абурыўся паводзінамі журналістаў, якія "нагнятаюць абстаноўку", што паабяцаў, што яны "за свае словы расплацяцца". Не ведаю, які інтарэс там меў спадар Каваленка, але запытацца ў яго пра гэта практычна немагчыма – зараз Андрэй Фёдаравіч, якога абвінавачваюць у атрыманні хабару, адказвае ў ізалятары на пытанні следчых.

Тым часам па ходзе чэмпіянату высветлілася, што менавіта шукалі расіяне ў Бабруйску. Прывабіла іх, мабыць, перспектыва таго, што клуб можа выступіць у Лізе Еўропы. Выхад на еўрапейскую арэну дазваляў атрымаць прэміяльныя ад УЕФА і, акрамя таго, быў шанц праявіць там сябе і зарабіць на трансферах футбалістаў. Для гэтага заставалася зрабіць не так і шмат – альбо самім выйграць Кубак Беларусі, альбо жадаць кубкавага поспеху барысаўскаму БАТЭ.

Першымі падклалі свінню расійскім "партнёрам" самі бабруйскія футбалісты, калі ганебна прайгралі ў 1/8 фіналу Кубка Беларусі камандзе "Баранавічы" з другога дывізіёна. Дабіў "інвестараў" БАТЭ, які ў фінале саступіў жодзінскаму "Тарпеда-БелАЗ" і такім чынам пакінуў "Белшыну" без удзелу ў Лізе Еўропы.

І... "цацка" перастала быць цікавай расіянам, якія раней планавалі зарабляць на продажы ігракоў. *"Вы ж збіраліся ўкласці ў каманду мільён долараў, дзе грошы?"* – пыталіся ў аднаго з "партнёраў" Сяргея Новікава журналісты. *"Гэта ўсё пустыя размовы. Мы – не інвестары". – "Вы збіраліся адкрыць у Бабруйску футбольную акадэмію. Што зроблена?" – "Для гэтага неабходны больш сур'ёзныя фінансавыя магчымасці". – "Вы збіраліся перапрадаваць ігракоў..." – "У мяне няма магічнай шапачкі альбо палачкі. Мы заяўлялі, што хочам за тры гады пабудаваць і змяніць у Бабруйску".*

Тры гады расіяне чакаць не сталі. Як таямніча зімой гэтага года яны з'явіліся, такім жа чынам летам і зніклі. Услед за гэтым па іншых клубах разбегліся і футбалісты, а "Белшына", якая яшчэ год таму была ў лідарах, заняла ў турнірнай табліцы перадапошняе месца і з трэскам вылецела з вышэйшай лігі ў ніжэйшы дывізіён. Праект завяршыўся – каманду паспяхова развалілі.

Зрэшты, адэкватныя людзі з самага пачатку прагназавалі такі фінал. Дзіўна было бачыць іншае – як прагна клююць на авантурных "расійскіх інвестараў" дзяржаўныя чыноўнікі. Зрэшты, такая сітуацыя не толькі ў спорце. Калі сваіх мазгоў няма, то чужыя ўжо не дапамогуць.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Знакі неспакою Міхася Скоблы




Сваё 50-годдзе адзначае Міхась Скобла. Большасці чытачоў "Народнай Волі" гэты таленавіты чалавек вядомы як паэт са сваім адметным светабачаннем, надзвычай чуйны да беларускага слова. З нагоды юбілею нялішне было б згадаць пра яго асветніцкую і арганізатарскую дзейнасць: напрыклад, у значнай ступені дзякуючы менавіта яму мы сёння нашмат глыбей, чым раней, ведаем пра жыццё і творчасць вялікай пакутніцы за наш народ і выдатнай паэткі Ларысы Геніюш ці можам наведаць нядаўна створаную пры старажытнай гродзенскай Каложы бібліятэку яе ж імя...

Сёння ж я хацеў бы звярнуць увагу на толькі што выдадзеную прыватным выдавецтвам "Кнігазбор" з дапамогай Саюза беларускіх пісьменнікаў кнігу выбранай эсэістыкі Міхася Скоблы пад назвай "Саркафагі страху" з арыгінальным падзагалоўкам "Прознае".

У гэтым салідным, амаль на 400 старонак, томе мы знойдзем напісаныя ў розныя гады творы, якія, як трапна заўважана ў выдавецкай анатацыі, уяўляюць сабой "сплаў асабістых успамінаў і ўдумлівых развагаў на літаратурныя і гістарычныя тэмы". Сапраўды, у кнізе ў чыстым выглядзе чытач не знойдзе ані ўспамінаў як такіх, ані развагаў, не "падсвечаных" гэтымі самымі ўспамінамі. Так напісаны найлепшыя, на мой погляд, тэксты гэтай кнігі: "Украінскі фронт Быкава", "Дудар, якога слухала неба" (пра барда Зміцера Сідаровіча), "Мацак ад Дамашэвіча, альбо Нацыяналіст у кубе", "І адна ў полі воін" (пра расійскую дысідэнтку Валерыю Навадворскую), "Бараніць вуллі свае" (пра дзяячку нашаніўскага Адраджэння, пісьменніцу і асветніцу Зоську Верас), "Ёй дадзена было перамагчы" (пра згаданую вышэй Ларысу Геніюш)... Уласныя ўражанні аўтара ад чытання твораў Анатоля Вярцінскага і асабістых з ім сустрэч пакладзены ў аснову эсэ "Знакі неспакою".

Іншая іпастась Міхася Скоблы – палемічна-крытычныя нататкі. Гэты жанр у нашым пісьменстве мае даўнюю традыцыю, якая сфарміравалася амаль паўтысячы гадоў таму, дзякуючы Сымону Будналу, Хрыстафору Філалету, Іпацію Пацею, Мялету Сматрыцкаму, ананімнаму аўтару "Прамовы Мялешкі", Цыпрыяну Камуняку... Міхась Скобла паказвае сябе цікавым сучасным палемістам. Можна, вядома, не ва ўсім пагаджацца з некаторымі Скоблавымі ацэнкамі асоб ці твораў, але, па-першае, гэтыя ацэнкі – вынік шчырых перажыванняў аўтара за лёс нашай мовы, культуры, за перспектывы нашай дзяржаўнасці, а па-другое, аўтар у сваіх палемічных артыкулах і нататках дэманструе адметную, вартую захаплення дасціпнасць. Прывяду толькі некаторыя з яго выказванняў і фармулёвак: "Майго дзедахутаранца бізунамі... заганялі ў калгас, праўда, прапаноўвалі і альтэрнатыву – Калыму" ("Купала Янка і лаянка"), "На якой казе выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" пад'ехала на вядомы адрас Маркса, 38, я не ведаю" ("Адкуль паходзіць народець"), "Што ж, суддзі ў сучаснай Беларусі насамрэч больш запатрабаваныя, чым энцыклапедысты" ("Пра энцыклапедыю "Максім Багдановіч"), "І закруцілася машына, якая ў нашай краіне стаіць заўсёды напагатове – механізм змазаны, экіпаж ніколі не спіць" ("У чым крамола "Гродназнаўства"?")...

А ф а р ы с т ы ч н а с ц ь мыслення Міхася Скоблы відавочная і ў іншых творах са зборніка "Саркафагі страху": "Язэпа Драздовіча можна назваць першым беларускім касманаўтам" ("Першы касманаўт, альбо Vivat Albarussia liberta"), "Могілкі Росы – адзінае месца ў свеце, дзе беларусы вышэй за ўсіх" ("Бараніць вуллі свае"), "Беларуская паэзія падае нам *вярба*-льны знак" ("З рабра беларускай вярбы")...

Сто гадоў таму Вацлаў Ластоўскі напісаў простую і даходлівую брашуру пад назвай "Што трэба ведаць кожнаму беларусу". Міхась Скобла ў сваёй кніжцы таксама адказвае на пытанне свайго папярэдніка, але ў большай ступені ён распавядае нам пра тое, што кожны беларус павінен *адчуваць*, за што павінен *перажываць*. У гэтым, на мой погляд, палягае каштоўнасць кнігі "Саркафагі страху", якую можна набыць у кнігарнях "Белкнігі" і ў незалежных кнігараспаўсюджвальнікаў.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**







Рэкламны аддзел: narodnayav@gmail.com
тэл.: +375 29 8 444 725, +375 29 111 30 77, +375 17 328-66-09

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Заснавальнік і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 5.12.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 34 10 экз. Заказ № 4816

